© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Дружны пасёлак

**МЯДЗЕЛ. Жыхары гэтага паселішча непадалёку ад вёскі Занарач на Мядзельшчыне дакладна не ведаюць, дзе жывуць. У вёсцы Дружная, або ў пасёлку Дружны. Купка дамоў на высокай гары спачатку называлі вёскай, пасля – пасёлкам. Шыльды-указальнікі перапісваліся, перапісваюцца, магчыма, будуць перапісвацца. Але недарэчнасці тыпу словазлучэнняў накшталт "Пасёлак Дружная" – не перашкода ў тым, каб будаваць тут жыццё ў прамым і пераносным сэнсах.**

Дружны, што ў двух кіламетрах ад Занарачы, узнік у 1993 годзе. Тут жывуць перасяленцы з забруджаных радыяцыяй тэрыторый. Першы дом пачалі будаваць у 1993 годзе.

## Дамы замест Чарнобыля

Дружны – вынік супрацоўніцтва нямецкага фонду "Дамы замест Чарнобыля" і беларускай дабрачыннай арганізацыі "ЭкаДОМ". Спачатку ставіцца драўляны каркас дома, а астатнія работы трэба зрабіць самім будучым жыхарам. Будаўнічыя матэрыялы купляць не трэба, іх можна ўзяць на базе, што знаходзіцца побач. Усе матэрыялы – экалагічна чыстыя. Гэта гліна, драўляныя трэскі. Дамы з такіх матэрыялаў будуюцца ў Германіі даўно. Крыюць дахі чарапіцай або яе разнавіднасцю – металачарапіцай.

## Праблемы

Сказаць, што перасяленцы жывуць тут без праблем – нічога не сказаць. Такога проста не бывае. Мы зусім выпадкова – на дымок з коміна – зайшлі ў адзін дом. Тут жыве **Тацццяна Вышыванюк** з сынам **Алёшам** і дачкой **Юляй**. Пераехалі пару год таму з пасёлка Рэчыца на Століншчыне. Зімуюць у доме другую зіму. Пераехала з-за праблемаў са здароўем дзяцей. Кажа, што тут дзеткі адчуваюць лепш. Ды і дом Тацццяна пабудавала сваімі рукамі неблагі. Але вось на работу па сваёй спецыяльнасці – бухгалтарам – не ўладкавалася. Пакуль вельмі дапамагае агарод. Тацццяна Вышыванюк пакуль не працуе. Гэта для яе на сёння самая вялікая праблема. Хіба толькі пакаёўкай у здраўніцы. Па спецыяльнасці ж яна бухгалтар.

Мужчынам з работай тут лягчэй. Сваяк Тацццяны **Уладзімір Вышыванюк** уладкаваўся на працу усяго праз два тыдні, як пераехаў. Балазе, шафёры "ЭкаДОМу" патрэбныя.

У райцэнтры давялося пачуць, што мясцовы калгас вельмі разлічваў першапачаткова на тое, што Дружны дапаможа кадрамі, але так не атрымалася. Дружны месціцца на землях калгаса "Шлях да камунізму", і мы спыталіся пра гэтую праблему ў яго кіраўніка **Пятра Каўруса**, які старшынстве тут першы год. Працуюць у калгасе усяго пару чалавек з Дружнага. Шафёр, кранаўшчык, ён жа і запраўшчык... Былі неяк будаўнікі з Дружнага. Прыходзілі на ферму жанчыны, але надоўга там працавалі. Старшыня не пагаджаецца з тым, што тут шмат вакансій. Ды і перасяленцы самі ідуць працаваць больш "на бераг".

Жывуць прыезджыя з мясцовымі без канфліктаў. Пра гэта гавораць і ў суседніх вёсках, і ў пасёлку. Ды і што канфліктаваць? Кожны заняты сваім: працуюць, гадуюць дзяцей. А калі ў Дружным сутыкнуліся з тым, што пасёлак ледзь не застаўся без вады – узровень воданапорнай вежы не дазваляў забяспечыць вадой без перабояў усе дамы, водаправод паселішча быў "закальцаваны" ў сістэму водазабеспячэння калгаса.

Старажылы, тыя, хто тут ужо пасадзілі сады, абжыліся. Уладзімір Вышыванюк жыве на Мядзельшчыне шэсць год. Тут у яго шмат сяброў. Дакладней, сябруюць у пасёлку ўсе:

– Без дружбы тут прападзеш, – кажа. Наш пасёлак назвалі так невыпадкова.

Так, галоўная праблема – працаўладкаванне. Але паціху людзі сабе знаходзяць месцы. Летам была праблема з вадой. Магазіна няма, школы няма, але гэта ёсць у Занарачы. Адна з вуліц, тая, дзе жыве сям'я Тацццяны Вышыванюк, незаасфальтаваная, таму вясной на новай вуліцы гразка. Калі прывозяць газ, машына спыняецца на асфальце, а то можна і не выехаць. Рабочыя да дамоў нясуць балоны на плячах. Але на немцаў валіць усё няма чаго. Яны толькі будуюць дамы, а інфраструктурай павінны займацца мясцовыя.

## Аптымізм

Пасёлак абдзімаецца з усіх бакоў. Але жыхары аптымізму не губляюць:

– Год праз 50 вырастуць дрэвы, што мы пасадзілі, і ўсё будзе добра.

Мінчанін **Юрый Супрыновіч**, які узначальвае "ЭкаДОМ", мы зразумелі – для жыхароў Дружнага – як хросны бацька. Ва ўсякім разе – аўтарытэт. Менавіта "ЭкаДОМ" і нямецкі фонд "Дамы замест Чарнобыля" амаль цалкам рэалізавалі праект па Дружным. Сапраўды, тут засталося расці садам і дзецям вакол дамоў, што пабудаваліся рукамі жыхароў. Юрый гаворыць, што спачатку добраахвотнікаў на перасяленне дапамагалі шукаць аб'явы ў СМІ, а пасля пачала працаваць людская пагалоска. А каб пераехаць сюды, трэба вытрымаць і фармальныя працэдуры. У "ЭкаДОМе" звяртаюць увагу на ўзрост патэнцыяльных перасяленцаў, на тое, наколькі яны забяспечаныя жытлом цяпер. Адным з важных крытэрыяў – ступень забруджанасці тэрыторыі, дзе жывуць кандыдаты на перасяленне. Калі радыяцыі менш, чым 6 кюры на квадратны кіламетр, то "ЭкаДОМ" дапамагчы такім людзям, на жаль, не можа.

## Дружба

Мы спыталіся ў Юрыя Супрыновіча, наколькі будаўніцтва дома па нямецкім праекце танней за традыцыйныя спосабы будаўніцтва на Беларусі. Юрый сказаў, што паколькі "ЭкаДОМ" не з"яўляецца камерцыйнай арганізацыяй, то і мэтай іхняй дзейнасці не могуць быць грошы. Але на самой справе такі праект танней за вядомыя раней на Беларусі.

Каб пабудаваць дом, спачатку робіцца драўляны каркас. Ніз каркаса абабіваецца апалубкай. Туды засыпаецца мешаніна гліны і трэсак і ўтрамбоўваецца драўлянай таўкушкай. На наступны дзень апалубка узнімаецца на адзін узровень вышэй. І так пад столь. Затым сцены тынкуюцца. Кроквы хаваюцца пад чарапіцай, пасля – унутраныя работы – дом гатовы. Схема, хаця і даволі ўмоўная, але дае ўяўленне пра тое, як можна пабудаваць экалагічна чысты дом. Калі такіх дамоў некалькі дзесяткаў, можа атрымацца вёска. Або пасёлак. Няважна. Галоўнае, каб тут панавала дружба.

**Юрый КАРПІЦКІ,**
**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

### Наша даведка



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Пасёлак Дружны стаіць на ўзгорку. Цяпер замецены снегам. Летам зноўку прыедуць сюды добраахвотнікі, або, як цяпер іх клічуць, валанцёры, з Германіі, каб дапамагаць людзям абжывацца на новым месцы.**

МЯДЗЕЛ. У вёсках Занарач і Дружная праводзіцца унікальны нават у межах СНД эксперымент па ўкараненні экалагічных тэхналогій у жыллёвае будаўніцтва. Мэта – задзейнічаць у будоўлях і эксплуатацыі толькі натуральныя прыродныя матэрыялы і крыніцу энергіі.

Праводзяць яго сумесна Беларускае аддзяленне міжнароднай акадэміі экалогіі, беларуска-нямецкая арганізацыя "Экадом" і нямецкі дабрачынны фонд "Дамы замест Чарнобыля".

У вёсцы Занарач абжытыя першыя 18 дамоў з саламяных і гліна-саламяных блокаў, блокаў з гліны і трэсак. Па ўсіх эксплуатацыйных параметрах экажыллё пераўзыходзіць традыцыйнае цаглянае ці панельнае. І каштуе ў некалькі разоў танней, і збіраецца ўсяго за тыдзень. У Германіі такія дамы стаяць па 300 год і, пры выкананні ўмоў будаўніцтва, не баяцца ні сырасці, ні мышэй.

У вёсцы Дружная пабудаваная і працуе першая ў Беларусі ветраэнергетычная ўстаноўка магутнасцю 250 квт. З моманту пуску яна выпрацавала 200 тысяч кілаватгадзін экалагічна чыстай электраэнергіі. У самой жа вёсцы знаходзіцца каля 30 разнастайных экадамоў з саламяных блокаў, глінаўтрымліваючых матэрыялаў, з сумесі трэсак з глінай. Тут жа змантаваны і самы магутны ў Беларусі фотаэлектрычны калектар.

Падрыхтаваў **Алег БЯГАНСКІ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Тацццяна Вышыванюк, яе сын Аляксей і кошка Моніка. У дзень нашага прыезду ў Дружны сям'я Вышыванюкоў была дома ў поўным зборы. Тацццяна пакуль не можа ўладкавацца на працу, а дзеці, школьнікі Аляксей і яго сястра Юля прыхварэлі. Ды, па словах мамы, хваробы тут усё ж насігаюць іх шмат радзей, чым на забруджанай радыяцыяй Століншчыне.**



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Валянцін Харошка з Хойніцкага раёна. Прыехаў сюды самы першы. Цяпер працуе загадчыкам гаспадаркі ў ЭкаДоме.**
**– У 1993 годзе тут было чыстае поле. Будавалі па 5 дамоў штогод, і вырас цэлы пасёлак. Вясной засталося давесці некалькі дамоў – і ўсё, будоўля ў Дружным скончыцца. Перадзем у Лепель, там будзем будаваць пасёлак.**
**Валянцін Харошка тут за старасту. Папершае, ён старажыл, а па-другое, загадвае базай, адпускае людзям матэрыялы. Таму праблемы ўсіх ведае. І людзі да яго звяртаюцца.**




Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Пётр Карповіч прыехаў у Дружны з Лельчыцкага раёна на Гомельшчыне дапамагчы брату пабудавацца. Пляменніца Пятра Аксана, мабыць, ужо не будзе называць сябе перасяленкай, як пакуль называюцца тут заснавальнікі Дружнага.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



■ ФУТБОЛ

# Лепшыя футбалісткі – у СШ №12



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА

**Пасля заканчэння каляднага турніру юныя футбалісты змаглі пагутарыць з прафесіяналамі – Аляксандрам Вяжэвічам і братамі Макоўскімі. Аўтографы раздае лепшы футбаліст Беларусі 1996 года Уладзімір Макоўскі.**

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую пятніцу скончыўся першы гарадскі калядны турнір сярод школьніц, у якім удзельнічала 6 каманд.**

Гульні праходзілі ў спартыўнай зале СШ№12. На матчах прысутнічалі знакамітыя маладзечанскія футбалісты, якія прыехалі дадому ў адпачынак. На ўрачыстым закрыцці турніру прызы ўручалі лепшы футбаліст Беларусі 1996 года **Уладзімір Макоўскі**, яго брат **Міхаіл**, які гуляў у нацыянальнай і быў капітанам маладзёжнай зборнай Беларусі, і чэмпіён краіны 2001 года ў складзе бабруйскай "Белшыны", лепшы бамбардзір у гісторыі маладзечанскага футбола **Аляксандр Вяжэвіч**.

Цэнтралізавана дзяўчынкі пачалі займацца футболам з пачатку гэтага вучэбнага года. Ужо ёсць пэўныя поспехі: у пачатку снежня маладзечанкі перамаглі зборную Смалявічаў – 18:6. Цікава глядзеліся і калядныя гульні. Дзяўчынкі змагаліся не на жарт – сілавых прыёмаў было не менш, чым у мужчынскім футболе. Мацнейшымі ў турніры аказаліся каманды СШ№12. Мяркуецца, што падобныя турніры стануць традыцыйнымі, і яны будуць праходзіць у дні школьных канікул.

Выніковая табліца гарадскога каляднага турніру:

| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | Р/М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| СШ №12 (5 класы) | ** | 1:1 | 9:2 | 5:2 | 6:0 | 12:0 | 33:5 | 13 |
| СШ №12 (7 класы) | 1:1 | ** | 2:2 | 5:0 | 7:0 | 3:0 | 18:3 | 11 |
| СШ №11 | 2:9 | 2:2 | ** | 2:2 | 8:0 | 4:0 | 18:13 | 8 |
| СШ №2 (7 класы) | 2:5 | 0:5 | 2:2 | ** | 1:0 | 1:0 | 6:12 | 7 |
| Зборная СШ №6-7 | 0:6 | 0:7 | 0:8 | 0:1 | ** | 1:0 | 1:22 | 3 |
| СШ №2 (5 класы) | 0:12 | 0:3 | 0:4 | 0:1 | 0:1 | ** | 0:21 | 0 |

Усе каманды атрымалі торты, каманды-прызёры і кожны гулец каманды-пераможцы – граматы. А лепшыя па амплуа – яшчэ і мяккія цацкі.

Гэта лепшы варатар – **Вераніка Стахоўская** (СШ №2), лепшыя абаронцы – **Каця Маліноўская** (СШ №12), **Таня Чайкоўская** (СШ №6), лепшыя нападаючыя – **Ала Мачулка** (СШ №12), **Валя Неруш**, якая выступала за СШ №11. Прыз глядацкіх сімпатый атрымала **Іна Альховік** (СШ №12).

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ПАРТРЭТ

# Андрэй Лявончык:
# сёлета вылецець не баімся

**МАЛАДЗЕЧНА. Мінулы год для Андрэя Лявончыка стаў дэбютным у вышэйшай лізе. Чым займаецца футбаліст у адпачынку?**

– Крыху падтрымліваю форму: бегаю кросікі, часам падыходжу ў залу. Хаця пасля сезона крыху стаміўся ад футбола, але ціпер узнавіўся, да трэніровак гатовы.

**– І калі яны пачынаюцца?**

– Першы збор запланаваны на заўтра (гаварылі мы 2 студзеня). Маладзечанцы і мінчане будуць трэніравацца паасобку – кожная група ў сваім горадзе. Разам усе збяруцца 8 студзеня.

**– Ці бачыліся з кім-небудзь з гульцоў падчас адпачынку?**

– У снежні мы з астатнімі маладзечанцамі арганізавалі міні-футбольную каманду і выйгралі турнір "Залатая восень".

**– У камандзе ёсць псіхалагічнае раздзяленне на мясцовых і немясцовых гульцоў?**

– Я так не сказаў бы.

**– З кім сябруеце ў камандзе?**

– Больш зносінаў з моладдзю – **Бычкоўскім, Смірновым, Дараховічам, Макрыцкім, Асадоўскім.**

**– Вы – універсальны гулец. Але ў ФК "Маладзечна" гуляеце справа у паўабароне. Хутчэй за ўсё, пакіне клуб адзін з вашых канкурэнтаў – Аляксандр Вільтоўскі. Ці настройвае Людас Румбуціс вас на тое, што будзеце сёлета гуляць у аснове?**

– Нічога такога не гаварыў (смяецца).

**– Якая пазіцыя на полі бліжэйшая вам?**

– Калі вучыўся у спартшколе, то гуляў у цэнтры. Мне там падабалася. У "Забудове" мяне выкарыстоўвалі на фланзе.



**Андрэй Лявончык.**

**– Праз год расшырыцца вышэйшая ліга – зноў там будзе 16 каманд.**

– Не мне вырашаць, колькі будзе каманд у вышэйшай лізе.

**– Але за месца ў "вышэйшы" ФК "Маладзечна-2000" можа быць спакойнае?**

– Вядома. Але сёлета і задачы будуць іншыя – не толькі зачапіцца за месца ў вышэйшай лізе, але і падняцца як мага вышэй у турнірнай табліцы. Сёлета боязі вылецець не будзе.

**– Як ставіцеся да стварэння турніру дублёраў?**

– Лічу, што гэта добрая рэч. Тут моладзь можа праверыць сябе, набірацца досведу.

**– Не цяжка пасля дубля выходзіць на наступны дзень у аснове?**

– У вышэйшай лізе я толькі з "Лакаматывам" згуляў амаль тайм. Астатнія разы выходзіў на некалькі хвілін. Пасля поўнай гульні за дубль гуляць на нступны дзень было цяжка. Але што зробіш?

**– Чым займаешся ў свабодны час?**

– Нейкага аднаго захаплення няма.

**– Гавораць, спартсмены – абмежаваныя ў чымсьці людзі. Прыкладам, футбалісты. Яны шмат ездзяць, але бачаць адно: трэніроўка, гульня. Кожны дзень – мяч. Вы скончылі школу з сярэбраным медалём і маглі б уладкавацца ў іншай сферы. Гэтае абмежаванне не замінае?**

– Зараз падумаю. (Паўза) Так і атрымліваецца, што падчас сезона знаходжуся ў адным асяроддзі. Але прывык ужо. Толькі па выхадных сустракаемся з сябрамі.

**– І гуляеце ў футбол?**

– Не, яго хапае і так. Сустракаемся, каб пагаварыць, абмеркаваць свае справы.

**– З камп'ютэрам сябруеце?**

– Падчас перапынку падыходжу ў школу, там інфарматык – знаёмы чалавек. Ён дае пагуляць. Цікава! І добрыя гульні ёсць – галаваломныя, а не проста "стралялкі".

**– У футбольны менеджэр не гулялі?**

– Не. Калі мы і заходзім пагуляць, то на гадзіны паўтары, не больш. А менеджэр – гэта доўгая гульня.

**– Каго вы бачыце сваім канкурэнтам на правым фланзе?**

– **Тартоўскага. Азаронак** можа там гуляць. Гаворыць, што ў яго гэта любімая пазіцыя. Ёсць у камандзе добрыя паўабаронцы.

**– Кантракт калі заканчваецца?**

– Я падпісваў на тры гады. Засталося яшчэ два.

**– Думак пра пераход няма?**

– Пакуль не. Я ж у мінулым сезоне дубль гуляў, няма куды пераходзіць.

**– Дзе сустракаў Новы год?**

– У сям'і, а потым пайшоў на дыскатэку ў клуб.

**– У 12 гадзін ночы якія думкі былі?**

– Асабліва ніякіх не было. Жаданне заўсёды адно: каб усё было добра, каб было здароўе, каб спадарожнічала ўдача і збываліся мары.

**– Якія?**

– Добра загуляць у футбол, трапіць у добрую каманду і гэтак далей.

**– Чаго вам і жадаю, Андрэй!**

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Табло

■ МІНІ-ФУТБОЛ

**МАЛАДЗЕЧНА. 29 снежня ў Чысці прайшоў штогадовы раённы турнір.**

5 каманд згулялі паміж сабой па кругавой сістэме – у чацверты раз за апошнія пяць год мацнейшымі сталі навучэнцы ПТВ-42 з Беразінскага. Другімі і трэцімі сталі дзве каманды "Забудовы". За "Забудову-2" гулялі малады футбалісты. Замкнулі табліцу каманда калгаса "Гарадзілава" і птушкафабрыкі з Аляхновічаў.

Трэнеры пераможцаў **Леанід Лявончык** і **Канстанцін Станкевіч** далі пагуляць на турніры 12-13-гадовым школьнікам – **Пашу Бабку, Сяргею Трусу, Юру Лявончыку** і **Віцю Кісліцкаму**. Сярод старэйшых, трэба сказаць, яны не разгубіліся, у матчах з аўтсайдэрамі склалі самастойную чацвёрку, якая выглядала не горш за сапернікаў.

За перамогу пэтэвэшнікі атрымалі грошы. Але прызавы фонд аказаўся ў 2 разы меншы, чым на нядаўніх раённых спаборніцтвах па баскетболе.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ З УСМЕШКАЙ

## Сустрэлі Новы год

МАЛАДЗЕЧНА. Турысты турклуба "Пілігрым" сустрэлі Новы год калектыўным забегам з лыжамі ў руках вакол клуба. Спаборніцтвы пачаліся 1 студзеня ў 1 гадзіну 47 хвілін. Сярод мужчын першае месца з паказчыкам 55 секунд узяў **Аляксандр Патаповіч**, сярод жанчын самай спрытнай была **Наталля Шынкевіч** – 47 секунд. Відаць мужчыны турысты крыху прытаміліся, аддаючы пальму першынства слабай палавіне.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ТУРЫЗМ

МАЛАДЗЕЧНА. Мінулы год для турыстаў клуба "Пілігрым" быў адметны тым, што ў Інтэрнет-прасторы з'явіўся іх сайт. Ідэя прысутнасці у Інтэрнеце сярод турыстаў нарадзілася даўно, а рэалізавалася толькі тады, калі за справу ўзяўся турыст і адначасова інжынер раённага вузла электрасувязі **Юрый Лужынскі**.

Сайт дае плён. Напрыклад, некаторыя мінчане рабілі заяўкі на ўдзел у веларалі "Маладзечанская восень" менавіта праз Інтэрнэт. Не пустуе і віртуальная гасцёўня "Пілігрыма", дзе турысты з розных куткоў свету абменьваюцца інфармацыяй. Знайшліся нават "цёзкі" "Пілігрымаў" у Расіі.

Сайт, размешчаны па адрасе www.clubhome.narod.ru.

Турклуб, які быў створаны ў 1977 годзе, пастаянна развіваецца. За час існавання "Пілігрыма" тут было падрыхтавана 7 кандыдатаў у майстры спорту, а яго сённяшні старшыня **Сяргей Бялкоў** стаў майстрам спорту. У 1994 у складзе першай беларускай экспедыцыі ў Гімалаі удзельнічаў выхадзец "Пілігрыма" **Аляксандр Дуброўскі**.

– За 24 гады існавання клуб не змяніў свайго профілю, – гаворыць на старонках Інтэрнета яго старшыня Сяргей Бялкоў. – Ён і сёння з'яўляецца цэнтрам турызму ў горадзе.

**Мікола ГАЙДУК.**

■ ВАЛЕЙБОЛ

МЯДЗЕЛ. Мужчынская каманда па валейболе ўдзельнічала ў фінале чэмпіянату вобласці. Заняла там трэцяе месца.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ МІНІ-ФУТБОЛ

**МАЛАДЗЕЧНА. 8–12 студзеня ў спартзале ЗМК пройдзе рэспубліканскі турнір на прызы Івянецкай кандытарскай фабрыкі сярод хлопчыкаў 1990 года нараджэння.**

Удзельнічаюць каманды ДЮСШ з Маладзечна (трэнер – Аляксандр Гармаза), Барысава, Ліды, Наваполацка, РЦАП БДУ (Мінск), Днепр (Магілёў), Беларуськалій (Салігорск), СДЮШАР-6 (Гродна).

Адкрыццё турніру – 8 студзеня а 13-й гадзіне.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

■ ЛЫЖНЫ СПОРТ

МАЛАДЗЕЧНА. 15-18 студзеня пройдзе чэмпіянат горада сярод школьнікаў і навучэнцаў. Пераможцаў і прызёраў чакаюць граматы і падарункі.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ МІНІ-ФУТБОЛ

**СМАРГОНЬ. 30 снежня завяршыўся першы этап раённага чэмпіянату. Гульні праходзяць у фізкультурна-аздараўленчым комплексе "Юнацтва".**

10 каманд па кругавой сістэме вызначылі шасцёрку мацнейшых. Гэта "Шанц" – 27 ачкоў, СКЗ-Ветэран – 21, "Вілія" – 17, каманда ўпраўлення адукацыі – 16, "Змена" – 15, аграгатнага завода (САЗ) – 12.

Не трапілі ў наступны раунд каманды ДЮСШ-87, "Оскар", "СПЭС", войскай часці 1259.

5 студзеня згуляюць САЗ – "Змена" і "Вілія" – упраўленне адукацыі. На наступны дзень пераможца першай пары згуляе супраць "Шанца", другой – "СКЗ-Ветэрана". А 12 студзеня пройдуць стыкавыя гульні за трэцяе і першае месцы. Тады ж адбудзецца ўрачыстае закрыццё турніру.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ГУЛЬНЯ Ў КАРТЫ

**МАЛАДЗЕЧНА. 5–6 студзеня ў шахматна-шашачным брыдж-клубе "Папараць" пройдзе адкрыты чэмпіянат горада ў падкіднога дурня.**

Арганізатары перанеслі пачатак на 16 гадзін з-за таго, што субота будзе рабочым днём.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Чароўная магія Калядаў

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №52 за 2001 г.**

*Паўночная* варажба пачынаецца з 12 гадзін ночы. У гэтых відах варажбы могуць браць удзел ужо дарослыя дзяўчаты, ды і то ў прысутнасці бабулек.

Смелая дзяўчына можа адважыцца на такі від варажбы: яна застаецца адна ў пакоі, накрывае стол абрусам, выстаўляе сталовы прыбор без нажа і відэльца і запрашае ўголас: ***"Суджаны-ражаны! Прыходзь да мяне вячэраць!"***.

Усё гэта робіцца пры зачыненых вокнах і дзвярах. Калі пачуецца свіст ветру за акном, грукат у вокны і дзверы, гэта значыць, што нарачоны з'явіўся. Дзяўчына ні ў якім разе не павінна адказваць на яго пытанні і толькі сама ўвесь час пытаць: "Як зваць?" Нарачоны называе сябе, дзяўчына павінна ў тое ж імгненне сказаць: ***"Чур майго месца! Чур маёй загадкі!"*** Нарачоны знікае, а дзяўчына ведае імя будучага жаніха.

Каб даведацца, колькі дзяцей будзе ў дзяўчыны пасля замужжа, трэба ў кілішак з вузкім дном і шырокім рыльцам (каб не лопнула) наліць ваду, апусціць пярсцёнак і выставіць на мароз у патаемным месцы (каб не скралі ліхія людзі) ці ў камеру маразільніка. Калі вада замерзне, то лічаць, што колькасць грудкоў на паверхні лёду паказвае, колькі будзе сыноў, а колькасць ямак – колькасць дачок. Ну, а калі лёд будзе гладкі, дык, верагодна, не будзе ў дзяўчыны дзяцей.

Варажба на сон ці *начная* здзейсніцца падчас сну. Можна пакласці пад галаву грабеньчык са словамі: ***"Суджаны-ражаны! Расчашы мне галаву!"***. Нарачоны ў сне абавязкова з'явіцца і расчэша, застаецца толькі добра запомніць у сне яго аблічча.

А можна проста распусціць у невялікай колькасці вады (на адзін глыток) дробку солі, выпіць перад сном і папрасіць: ***"Суджаны-ражаны, дай мне напіцца!"***. Пры гэтым неабходна запомніць таго, хто гэта зрабіў у сне. Ёсць таксама вельмі мудрагелісты спосаб убачыць у сне будучага мужа: частку вячэры пакласці пад падушку і запрасіць нарачонага на вячэру. Той мусіць з'явіцца.

Апоўначы на вуліцы патрэбна кідаць снег супраць ветру. Калі ён упадзе акурат на вас – муж будзе малады ды жвавы, калі снег ляціць убок – давядзецца ісці замуж за чалавека ў гадах. Уначы можна таксама прайсці па свежым снезе. Калі да раніцы сляды ніхто не пэройдзе, не затопча, дык жыццё будзе добрае. Калі наадварот – дзяўчына будзе сварыцца з мужам усё жыццё.

Ноччу дзяўчына можа вывесіць перад сваім акном белы льняны ручнік і прыгаворваць: ***"Сдужаны-ражаны, прыйдзі да мяне і вытрыся маім ручніком. Пакінь след на маім ручніку!"***. На досвітку ідуць здымаць ручнік. Калі ён сухі, то чакаць жаніха давядзецца доўга, калі вільготны – то, пэўна, быць у гэтым годзе замужам. А калі здымаць няма чаго, значыць, месца выбралі для варажбы непрыдатнае – ліхія людзі перашкодзілі пра лёс даведацца.

Для больш сур'ёзнай варажбы можна ўзяць люстэрка, паставіць перад ім графін з вадою і запаленыя свечкі з трох бакоў графіна. Потым патрэбна пільна ўглядацца ў люстэрка праз графін – гэта дазваляе ўбачыць большасць самых важных падзей наступнага года.

У своеасаблівую групу універсальнай па часе варажбы можна далучыць варажбу на цыбулі. Кожная з сябровак бярэ цыбуліну, якая ёй найбольш падабаецца, пазначае яе, а потым усе цыбуліны апускаюць у ёмістасць з вадою. Чыя першая прарасце, тая дзяўчына хутчэй і замуж выйдзе.

Цыбуля таксама дазваляе прадказваць надвор'е на наступны год. Для гэтага трэба выцягнуць з яе 12 чашачак (па колькасці месяцаў у годзе), насыпаць у іх солі і паставіць у пераднавагоднюю ноч на акно. А калі зазвоняць да ранішняй малітвы, трэба перагледзець гэтыя чашачкі. Па іх парадкавым нумары і ступені вільготнасці солі прадказваюць, які будзе месяц: сухі, вільготны ці дажджлівы.

Можна варажыць і па іголках. Дзве іголкі намазваюць салам ці воскам, апускаюць разам у ваду і назіраюць, як яны тонуць. Калі пайшлі на дно роўна і хутка – жаданне здзейсніцца, сышліся разам – будзе вяселле, ляглі адна на адну – замужжа ў наступным годзе. Калі павернутыя вострымі канцамі адна да адной – каханне. Разышліся на дне шклянкі – перашкоды, і поспеху у справах не відаць. Варажыць на іголках могуць мужчыны, жанчыны (нават замужнія), дзяўчаты, і кожны знаходзіць у гэтым спосабе варажбы свае прыкметы.

Вялікая ўвага традыцыйна надаецца і навагоднім прыкметам. Лічыцца, калі дзяўчына парэжа ці ўколе да крыві палец у навагоднюю ноч, то у надыходзячым годзе абавязкова выйдзе замуж. Асаблівы сэнс надаваўся і звычаю апранацца ў першы дзень новага года ва ўсё новае і на працягу дня некалькі разоў мяняць вопратку. Гэта рабілася для таго, каб ва ўсіх заўсёды былі абновы.

У навагоднюю ноч можна таксама падрыхтаваць маленькую паперку і алоўак да таго часу, як гадзіннік пачне біць дванаццаць. Пасля першага ўдару патрэбна паспець напісаць жаданне, спаліць паперку, размяшаць попел у шампанскім і выпіць хутчэй, чым часы скончаць біць дванаццаты раз. Яно павінна абавязкова спраўдзіцца.

Псіхолагі сцвярджаюць, што ў нашым жыцці ўсё адбываецца менавіта так, як мы загадваем. Нацэліўся чалавек на поспех – і ўвесь час яму казачна шанцуе. А нешчаслівых выпадкаў ён проста не памятае. Варажба – таксама своеасаблівае праграмаванне сябе на поспех і ўдачу.

Але не трэба слепа разлічваць на лёс і чакаць прынца, нічога не прадпрымаючы для сустрэчы з ім. Што б вам ні выпала, памятайце: добрае збудзецца, а ў дрэннае верыць наогул не трэба. А самым дзейсным народным сродкам абараніцца сябе ад непажаданага прадказанага павароту лёсу, з'яўляецца жарт – не трэба ставіцца да варажбы сур'ёзна. Часам здараецца, што прадказанне настолькі моцна замацоўваецца ў падсвядомасці, што чалавек міжволі імкнецца яго рэалізаваць, нават насуперак цвярозаму сэнсу. І яно збываецца, але не таму, што было наканаванае.

Калі ж варажба ўспрымаецца як гульня, як неадрыўная частка святочнай атмасферы, робіцца не так крыўдна, калі нешта і не адбылося. Бо ўсё адно кожны атрымае зарад добрага настрою і слаўна павесяліцца.

**Вадзім ЗУБРЫЦКІ,**
**студэнт V курса геафака БДУ.**

■ ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 85 ГОД ТАМУ

## У Смаргоні паліцэйскія што хочуць, тое и робяць

**З Ошмянскага павету.** 29 ноября (листопада) ў Смаргонь прыехаў адзин мужык з вёски Михневичы на каню свайго цесьця и астанавіўся на рынку. Купіўшы ўсё, што трэба было, ён сеў на сани, але не на свае, а на дзядзьковы, –– дзядзька быў ад яго недалёка. У гэтым часи кале таго мужыка йшоў стражник и зачапіўся аб нагу мужыка. (Трэба было сказаць, што мужык гэты кульгае, дык ён выцягнуў нагу, каб лепей было сядзець). Тагды стражник пачаў лаяцца и кликнуў других палицэйских. Беднаго мужыка павяли зараз ў халодную. Па дарози мужык прасіў стражникоў, каб яны ўзяли яго каня. На гэта палицэйския сказали, што каня возьмуць тагды, як яго адвядуць ў халодную, и пачали біць мужыка па твары; били так моцна, што прышлося адливаць водою.

Бьючы мужыка, стражники аб каню саўсим забыліся и тольки праз гадзины тры–чатыры ўспомнили и пайшли ўзяць яго; а каня ўжо не было: яго украли, и стаяли адны сани. На други дзень арэштованага мужыка пусьцили дамоў. Прыйшоўшы да хаты, ён расказаў сваю бяду цэсьцю, каторага быў конь. Той абамлеў: ня ведае, бедны, што и рабиць, апасля пайшоў з зяцем скаржыцца на стражникоў да асэсара. Асэсар не хацеў навэт и слухаць мужыка, а ешчэ радзиў, каб ён біў свайго зяця.

Цяпер мужык хоча судзиць стражникоў, але няведама, што з гэтаго выйдзе, бо цяпер палицэйские што хочуць, то и робяць

**САЛАДУХА**

**ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА З РЫСУНКАМИ «НАША НИВА». №6 ад 14 грудня (дзекабря) 1906 года**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАМ

- ВАЗ-2106, 1992 г. в., у выдатным стане. Т. у Вілейцы 55359 (пасля $19^{00}$).
- Мерседэс-200Д, 1986 г. в., ц/з, г/у, торг. Т. у Маладзечне 77131.
- Фольксваген-Гольф-2, 1986 г. в., 1.6Д, 3-дзверны, белы, 1400 у.а., торг. Т. у Вілейцы 53603.
- З/ч да VW-Пасат, універсал, 1.8Б, 1989 г. в.; фаркоп да Опель-Амегі; шыны. Т. у Маладзечне 70429.
- А/м Сеат, 1991 г. в. (аналаг Джэты), бензін, выдатны стан, з Германіі. Т. у Вілейцы 56955.
- VW-Пасат, 1986 г. в., на запчасткі. Т. у Смаргоні 34840.
- А/м Фольксваген-Пасат з Германіі, 1989 г. в., т/д, нядорага. Т. у Мядзеле 42615.
- Рэно-9, 1987 г. в., 1.3Б, 5КПП, ц/з, люк, 800 у. а. Тэл. (8-029) 6014964.
- М/а Форд-Транзіт, грузавы, 1990 г. в., дызель, 2.5 $см^3$, 2950 у. а. Т. у Астраўцы 20259, 22794.
- ВАЗ-21063, 1990 г. в., 1250 у. а. Т. у Маладзечне 68481.
- ФВ-Пасат, 1991 г. в. Т. у Смаргоні 31870.
- Форд-Сіеру, 1.6 бензін, 1992 г. в., з Германіі, 2200 у. а. Т. у Астраўцы 25975.
- З/ч да Аўдзі-100. Тэл. (8-029) 6014964.
- Іншамарку на хаду, аварыйную, пад афарбоўку, зварку. Т. у Маладзечне 42679.

## КУПЛЮ

- Аўтамабіль. Т. у Маладзечне 73673.

## ПАСЛУГІ

- Вазьму спадарожніка ў Польшчу за а/м. Тэл. (8-029) 6014964.

АБ'ЕКТЫЎНА ПРА РЭАЛЬНАЕ
RR
РАДЫЕ РАЦЫЯ
НА КАРОТКІХ ХВАЛЯХ
6095 кГц (49 м) 08:00-10:00
6180 кГц (49 м) 13:00-15:00
НА СЯРЭДНІХ ХВАЛЯХ
1080 кГц (278 м) 22:00-24:00
WWW.RACYJA.PL
220102, Менск, а/с 144
Koncesja Nr 243/99-R KRRiT 30.07.99

# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАМ

- Гараж у ГК №12. Т. у Маладзечне 60078.
- Драўляны дом у в. Краснае або мяняю. Т. у Маладзечне 96666 (пасля $17^{00}$).
- Аднапакаёвую кватэру у Вілейцы (вул. Гагарына, д.12, кв.72). Т. у Маладзечне 66872.
- Гараж у кааператыве №2. Т. у Маладзечне 75950.
- Гараж у ГК №1. Т. у Маладзечне 76314, Віктар.
- Цагляны дом (газ, вада, 0,15 га). Т. у Смаргоні 34517.
- Палову дома ў цэнтры Маладзечна (у перспектыве пад знос). Т. у Маладзечне 67435.

## МЯНЯЮ

- 3-пакаёвую кватэру ў п. Чысць (80 $м^2$) на дзве аднапакаёвыя ў Маладзечне; аднапакаёвую ў п. Чысць (45 $м^2$, гараж, машына, хлеў) на 2-пакаёвую ў Маладзечне. Т. у Маладзечне 99887, 99717.
- 4-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Разгледзім любыя варыянты. Т. у Маладзечне 51503 (пасля $20^{00}$), 69282.

# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

- **ВЯСЕЛЬНЫЯ ЎБОРЫ:** модныя, элегантныя, новыя паступленні, вэлюм у падарунак. Т. у Маладзечне 39293. Ліц. №04599 Белбытсаюза ад 18.10.1999 да 18.10.2004 г.
- **ВЯСЕЛЬНЫ** салон **"РАКСАЛАНА"** прапануе **НОВЫЯ** мадэлі 2002 г. Гасцініца "Маладзечна". Т. у Маладзечне 71676, 51070. Ліц. №00582 Белбытсаюза ад 4.06.1999 да 4.06.2004 г.
- **ВЯСЕЛЬНЫЯ** і вячэрнія сукенкі. Т. у Маладзечне 68547. Ліц. №05405 Белбытсаюза ад 28.05.2000 да 28.05.2005 г.
- Прыгожыя **ВЯСЕЛЬНЫЯ І ВЯЧЭРНІЯ** ўбранні. Аксесуары бясплатна. Т. у Маладзечне 50825. Ліц. №03716 Белбытсаюза ад 13.08.1999 да 13.08.2004 г.
- **МІЛЫЯ НЯВЕСТЫ!** Усё для вас! Пярсцёнкі на а/м. Т. у Маладзечне 30848, 26308. Ліц. №01795 Белбытсаюза ад 8.05.2001 да 8.05.2006 г.
- **ВЯСЕЛЬНЫЯ І ВЯЧЭРНІЯ ЎБРАННІ.** Новыя мадэлі. **НЯДОРАГА.** Т. у Маладзечне **50510.** Ліц. №02477 БДААБАН ад 30.07.2001 да 30.07.2006 г.
- Новы пракат вясельных і вячэрніх убораў па вул. Будаўнікоў, 15а (Дом быту). Т. у Маладзечне 67877, 50477. Ліц. №03204 БДААБАН ад 30.11.2001 да 30.11.2006 г.

## ІНШАЕ

- **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ.** Ліц. №1244 МП РБ ад 05.02.1999 да 05.02.2004 г. **КУПІМ** на запчасткі тэлевізары, відэамагнітафоны, прыборы. Лямпавыя не купляем і не рамантуем. Т. у Маладзечне 34740.
- Выканаем аддзелачныя работы, якія не патрабуюць ліцэнзіі. Т. у Маладзечне 50452 ($10^{00}$ – $21^{00}$).

# РОЗНАЕ

## ПРАДАМ

**БЫТАВАЯ ТЭХНІКА**

- Пральную машыну Філіпс, Аляска; тэлевізар Віцязь, 54 см; колы на дысках 195 R14 (6 штук) да буса ЛТ-45. Тэл. (8-029) 6026132. Т. у Маладзечне 52409.

**МЭБЛЯ**

- Новую тахту. Т. у Маладзечне 70429.

**ЖЫВЁЛА**

- Шчанят пітбуля. Т. у Маладзечне 76965 ($18^{00}$-$21^{00}$).

**ІНШАЕ**

- **КАМП'ЮТЭР Р І - Р ІІІ; КАМПЛЕКТУЮЧЫЯ — Б/У, ГАРАНТЫЯ. НАВАГОДНІЯ СКІДКІ. Т. у Маладзечне 64687, (8-029) 6432423.**
- Шырокі выбар бланачнай прадукцыі, усе віды накладных, пуцявых лістоў, адрыўныя талоны, новыя кнігі бухуліку для прадпрымальнікаў і юрыдычных асоб, кнігі пакупак, кнігі ўліку праверак (рэвізій). Вельмі нізкія цэны. Т. у Смаргоні 33077. Ліц. №34 Смаргонскага райвыканкома ад 30.06.2000 да 30.06.2005 г.
- Апырсквальнік навясны, 400 літраў, 12 м. Т. у Смаргоні 22165.
- **ПОМНІКІ** з мармуровай крошкі. Якасць, рэальныя кошты. Маладзечна, вул. Лібава-Роменская, 46 (насупраць музея). Т. у Маладзечне 70656.
- Радыётэлефон, 10-30 км; кватэрна-офісны, да 1 км, новы. Гарантыя. Т. у Маладзечне 69521.
- Гульнявую прыстаўку Sony Playstation, з дыскамі, б/у, дастаўка. Т. у Мядзеле 54045.
- Прагулачную каляску (бабаўняная); прыстаўку гульнявую Соні — усё б/у; калонкі ад музычнага цэнтра Самсунг — новыя. Т. у Маладзечне 63608.
- Сотавы тэлефон GSM Motorola 3888 + зараднае; скураны футарал. Тэл. (8-029) 6523628.
- Пражу п/ш (г. Пінск). Тэл. (8-01653) 45985.
- Дзюралевую лодку Рамантыка з электрарухавіком і а/м ВАЗ-21011 пасля аварыі. Т. у Маладзечне 53050.
- Электрадрыль, электралобзік. Т. у Маладзечне 69771.

## КУПЛЮ

- **ФОТААПАРАТЫ,** аб'ектывы, **САМАВАРЫ** вугальныя, патэфоны, гадзіннікі, ступы, бюсты і іншыя старадаўнія рэчы. Т. у Маладзечне 65542.
- **АГРЭГАТ ФАРБАВАЛЬНЫ** высокага ціску **"ВАГНЕР-7000".** Тэл. (8-029) 6335730.
- Нерабочыя аўтамагнітолы. Т. у Маладзечне 69771.

## ЗГУБЛЕНА

- Згублены пашпарт на імя Уладзіміра Канстанцінавіча Жахаўца просьба вярнуць за ўзнагароду. Т. у Маладзечне 67462.

## ІНШАЕ

- Пракат гульнявых прыставак Sony PlayStation. Дастаўка. Т. у Маладзечне 39379. Ліц. №01796 Белбытсаюза ад 8.05.2001 да 8.05.2006 г.
- Здам насенне на рэалізацыю. Т. у Маладзечне 61977.

## ПАТРАБУЮЦЦА

- Патрабуюцца супрацоўнікі на поўную або часковую занятасць. Прапіска значэння не мае. Т. у Маладзечне 22350 ($18^{00}$-$20^{00}$).

## ШУКАЮ РАБОТУ

- Шукаю работу па рамонце халадзільнікаў. Т. у Маладзечне 76721.

■ ПРОСТА АНЕКДОТ

Расказваў я аднойчы свайму сябру, кітайцу, анекдот. Расказаць вырашыў які-небудзь прасцейшы, карацейшы, каб лягчэй дайшло. Выбраў такі: "Сядзіць мужык на рэйках. Падыходзіць другі і гаворыць: Пасунься, я таксама сяду". Кітаец рагоча да слёз, амаль істэрыка. Няўжо, думаю, такі смешны анекдот? На ўсялякі выпадак пытаюся ў яго:

– Ты што, зразумеў?

Кітаец:

– Ну вядома, хітры мужык: папрасіў першага пасунуцца, каб на цёпленькае месца сесці!

Рэалізуем са склада:
**муку** шатраваную вытворчасці Скідзеля;
**муку** абойную, ячную, жытнюю;
**пшаніцу, ячмень;**
**крупы, макаронныя вырабы;**
**малако згушчанае, тушонку** (ялавічына)
Тэл. у Маладзечне **37163.**
Тэл. **(8-029) 6775055.**
Падлягае абавязковай сертыфікацыі. Ліц. №13303 Мінгарвыканкома ад 30.06.2000 да 30.06.2005 г.

Ад вытворцы
Сялянская гаспадарка «Світанак» рэалізуе
**яблыкі**
па 500 руб/кг.
Тэл. у Астраўцы
**22794, 20259.**

РУП «СЗАС-Плазмавак» прапануе па цэнах завода-вытворцы
**МЭБЛЮ**
ў шырокім асартыменце:
**мяккія куткі, спальні, кухонныя гарнітуры, прыхожыя, сценкі, шафы, сталы** ўсіх мадыфікацый, **тумбы, офісную мэблю,**
а таксама мэблю пад заказ любых фабрык РБ;
**Люстэркі** любых памераў і формаў (уласнай вытворчасці);
**Посуд** з фарфору і напыленага шкла (уласнай вытворчасці).
Смаргонь, вул. Маладзёжная, 20.
Тэл/факс у Смаргоні 32532, 32625, 32372.
Падлягае абавязковай сертыфікацыі. Ліц. №89 Смаргонскага РВК ад 12.09.2000 да 12.09.2005 г.

**САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ**
Мантаж ацяплення, водаправода, каналізацыі. **Цёплая падлога.**
Тэл. **(8-029) 6731083.**
Тэл. у Маладзечне **31083.**
Ліц. №С-1919 МАіБ РБ ад 13.12.2001 да 13.12.2006 г.

Ад вытворцы.
Вырабляем і рэалізуем
**макаронныя вырабы**
дробным оптам, а таксама праз гандлёвы пункт па вул. Ф. Скарыны, 17, 1-ы паверх.
Тэл. у Маладзечне **53713, 53753, 30246** (факс).
Падлягае абавязковай сертыфікацыі.

**НАРКАЛОГІЯ**
**ПЕРАРЫВАННЕ запою**
(кругласутачна)
**КОМПЛЕКСНАЕ ЛЯЧЭННЕ алкагалізму**
**ПСІХАТЭРАПІЯ + КАДЗІРАВАННЕ**
**Індывідуальны прыём па папярэднім запісе.**
Маладзечна, вул. Вольная, 12.
Тэл. у Маладзечне **37275, 50974.**
Ліц. №954/1Д Мін. аховы здароўя РБ з 8.06.1999 г. да 8.06.2004 г.

Арганізацыя рэалізуе
**ДОШКУ ДЛЯ ПАДЛОГІ, ВАГОНКУ, ПЛІНТУС, НАЛІЧНІК.**
Тэл. у Маладзечне 30064, (8-029) 6766706.
Ліц. №861 Маладзечанскага ГВК ад 27.07.2000 да 27.07.2005 г.

ЗІМОВЫЯ СКІДКІ
**ПОМНІКІ**
**з чорнага граніту**
Любыя формы і памеры.
Арыгінальнае мастацкае афармленне.
Камп'ютэрная апрацоўка шрыфту.
Дастаўка па раёне бясплатная.
Устаноўка. Цэны памяркоўныя.
**Вілейка, зав. Гідрабудаўнікоў, 3/А.**
**Тэл/факс у Вілейцы 52884.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



■ КРЫЖАВАНКА

Ірына САХАЦКАЯ.

1. Рэч, якую дораць на Новы год. 2. Пра малое тоўсценькае дзіця (разм., жарт.). 3. Прыстасаванне ў выглядзе жэрдкі для запірання варотаў. 4. Запаленне слізістай абалонкі гартані. 5. Неад'емная частка наваго́дняга дэсерту. 6. Трое коней, запрэжаных поруч у адзін экіпаж. 7. Месцазнаходжанне, месцажыхарства. 8. Адзін з відаў яды, якая падаецца на снеданне, абед і вячэру. 9. Лётчык. 10. Рэжучы інструмент для апрацоўкі металу, дрэва. 11. Тытул старажытных і візантыйскіх імператараў. 12. Абшар, адкрытая прастора. 13. Неад'емная частка любога свята, у тым ліку, і Новага года (напітак). 14. Гушкалкі. 15. Духоўны кіраўнік у мусульман. 16. Жаночае імя.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №52**

1. Графа. 2. Агурок. 3. Кмен. 4. Напітак. 5. Крах. 6. Холад. 7. Данос. 8. Снег. 9. Грыф. 10. Фрак. 11. Капрыз. 12. Зіма. 13. Анекдот. 14. Туман. 15. Навела. 16. Адбор. 17. Рэле. 18. Елка. 19. Аграхімія. 20. Яда. 21. Агрэст. 22. Трэбнік. 23. Конь.




■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

# Давяла любоў



Здарылася гэтая гісторыя ў канцы 80-х. Курсант пагранічнага вучылішча С. праходзіў стажыроўку на савецка-турэцкай мяжы. Мяжа знаходзілася ў маляўнічай цясніне і праходзіла па звілістай горнай рэчцы, дзе кішэла стронга. Нягледзячы на няпростыя стасункі СССР з Турцыяй ў тыя часы, застава была месцам даволі спакойным. Шпіёны трапляліся нячаста, у асноўным, мясцовыя жыхары нападпітку. Разнастаіць стажыроўку і меню курсанту дапамагала рыбалка. У адзін цудоўны дзень, спакойна седзячы на беразе рэчкі, курсант пачуў за спінай дабрадушнае рохканне. Ён азірнуўся і ўбачыў вялізнага секача, які з цікаўнасцю назіраў за курсантам. Трэба сказаць, што дзікі ў гэтых месцах былі непалоханыя, паколькі абарыгены-мусульмане да свініны абыякавыя. З легкадумнасцю, уласцівай маладосці, С. імгненна мяняе планы наконт рыбнага дня. Выхоплівае пісталет Макарава і, не зважаючы на складаную грамадска-палітычную сітуацыю, дакладным стрэлам пасылае кулю кабану між вачэй. З такім жа поспехам мог стрэліць і з рагаткі. Куля адрыкашэціла і з віскатам панеслася ў кусты. Паўкрыджаны звер пастаяў некалькі хвілін, здзіўлены нахабствам чужога, а затым з дзікім ровам кінуўся на курсанта. Адступаць не было куды, тэрыторыя СССР заканчвалася, а далей пачынаўся бяздушны Захад. Але жыць хацелася мацней, і С. кінуўся ў рэчку і праз некалькі секунд аказаўся на варожым беразе. Абураная жывёла насілася па беразе, адразаючы дарогу да сацыялістычнай айчыны і прыцягваючы ўвагу памежнікаў абедзвюх дзяржаў дзікім лямантам. Мокры курсант бегаў па беразе. Сякач перамяшчаўся аналагічна, не пакідаючы ніякіх варыянтаў на выратаванне. Вартавы на вышцы (з турэцкага боку) падняў заставу ў ружжо. І С. ужо з жахам бачыў туркаў, што набліжаліся, калі вартавы на вышцы (з савецкага боку) разабраўся ў сітуацыі і стрэліў з ракетніцы ў жывёліну. Толькі пасля гэтага раз'юшаны сякач накіраваўся да сваёй сям'і ў зарасніку. Першае, што ўбачыў С. пасля рэпатрыяцыі, – гэта камандзіра заставы і зампаліта, што беглі да яго, відаць, з самымі сяброўскімі намерамі. Як усё было далей, С. замоўчвае, але далейшую службу ён праходзіў ва ўнутраных войсках.

**Сямён БОНДАР.**

## Гараскоп 7 – 13 студзеня



**Авен**
(21.03–20.04)

Авенам тыдзень трэба пасядзець у офісах і дома. Падарожжы пагражаюць небяспекай і стратамі. Руціна на рабоце выльецца ў нечаканы дзелавы поспех ці кар'ернае павышэнне. Прадбачацца сваркі са старэйшымі сваякамі, магчыма, з бацькамі. Але канфлікт, тым не менш, скончыцца праз пару дзён мірам.



**Цялец**
(21.04–21.05)

Цяльцоў чакае перыяд важных спраў у плане паляпшэння службовага становішча ці ўмацавання пазіцый у бізнесе. Асцерагайцеся чужых парад. Не выключана, што іх будуць даваць нядобразычліўцы. У адносінах з каханымі чакайце ўсплёску мілых сэрцу ўспамінаў і рамантычнага настрою.



**Блізняты**
(22.05–21.06)

Блізнятам рэкамендуецца падумаць, як выкарыстаць буйную суму грошай, якая нечакана зваліцца на іх. Вернуць даўно забыты доўг. Астролаг лічыць мэтазгодным рызыкнуць на рынку нерухомасці. Аперацыі з зямлёй, жыллём і офісам абяцаюць быць удалымі. Блізкія здольныя даць слушную параду.



**Рак**
(22.06–23.07)

Рак атрымае магчымасць завяршыць даўні праект і атрымаць ад гэтага маральнае задавальненне. Але не больш, грошай гэта не прынясе. Засмучацца не трэба. Проста вялікі падарунак чакае Рака ў асабістых адносінах. Прызнанне ў каханні, прапанова шлюбу, сустрэча з даўно жаданым чалавекам. Не выключана, што ўсё гэта будзе адбывацца ў час падарожжа.



**Леў**
(24.07–23.08)

Ільвы адчуюць спустошанасць і нават стомленасць ад працы, бізнесу, сямейных абавязкаў. Вялікай будзе спакуса ўсё рэзка і аднача́сова памяняць. Не трэба спяшацца. Адпраўляйцеся ў дарогу. Лепш у адзіноце.



**Дзева**
(24.08–23.09)

Дзеве рэкамендуецца быць напагатове. Набліжаюцца прапановы накшталт таго, каб памяняць работу, сферу бізнесу, кола стасункаў. Заманлівыя, на першы погляд, але якія цяжка пралічваюцца. Лепш сесці і добра падумаць, перш чым прымаць рашэнне. Сэрца блізкага чалавека падкажа патрэбны крок.



**Шалі**
(24.09–23.10)

Шалі перапоўняцца аптымізмам ва ўсіх сферах жыцця. Не блытайце, аднак, веру з марамі. Перавага апошніх небяспечная стратамі і расчараваннямі. Ад аптымізму да хандры, такім чынам, акажацца ўсяго адзін крок. Правільная ацэнка прыйдзе нечакана. З дапамогай чужога чалавека ці выпадковага назірання.



**Скарпіён**
(24.10–22.11)

Планеты па заслугах ацэняць працавітасць і паслядоўнасць Скарпіёнаў. Узнагародай стане прыкметны рост даходаў і прасоўванне па службе. Чакае сустрэча з важнай персонай. Не варта несці на яе асабістыя клопаты, лепш абмежавацца дзелавой размовай.



**Стралец**
(23.11–21.12)

Стральцам трэба паслухаць параду даўняга сябра. Гэта тычыцца і перамен у бізнесе, і асабістых адносінаў. Астролаг не выключае, што дзеля такой парады можна адправіцца ў іншы горад ці краіну. Блізкія не зразумеюць сапраўдных намераў і ўспрымуць іх як замах на свае справы.



**Казярог**
(22.12–20.01)

Казярогу давядзецца надаць асаблівую ўвагу працы, дзе магчымыя праблемы і нават непрыемнасці. Дзеля ўрэгулявання складанасцяў пакіньце на нейкі час забавы і адпачынак. У сям'і ўсё будзе як звычайна, а часам нават лепш. Маладых, магчыма, чакае доўгая разлука.



**Вадалей**
(21.01–19.02)

Вадалей у сваіх памкненнях атрымаць больш дывідэндаў праявіць ініцыятыву і даб'ецца поспеху. Удалая эдзелка, добры кантракт, выгадная кар'ерная прапанова – вось што чакае тых, хто нарадзіўся пад гэтым знакам задыяка. З'явіцца магчымасць для падарожжа, якое прынясе новыя знаёмствы.



**Рыбы**
(20.02–20.03)

Рыбы перагледзяць свае адносіны да работы і справы, возьмуцца за штосьці новае, нявыпрабаванае. Баяцца навізны не трэба. Перамена абернецца дабром. Калі не адразу, то праз непрацяглы час. Адданасць і любоў блізкіх нададуць упэўненасць і натхненне ў новых пачыннях.

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Нешанцаванне

Спатрэбілася мне дыстыляваная вада для акумулятараў. Дастаў я старую скараварку, наліў у яе вады, прычапіў халадзільнік ад самагоннага апарата (з гарбачоўскіх часоў, дарэчы, не выкарыстоўваўся па "прамым" прызначэнні), паставіў усё гэта на газавую пліту і сяджу, чакаю, пакуль накапае, так бы мовіць, гатовая прадукцыя.

Раптам заходзіць сусед, убачыў устаноўку – вочы заблішчалі, ледзь сліна не пайшла, як у сабакі Паўлава. Я вырашыў пажартаваць і пытаюся:

– Ну як, пах ёсць? (А які ж пах ад кіпню?!) І чую ў адказ:

– Крыху ёсць, крыху ёсць.

А сам ужо выглядае, дзе ў мяне чаркі стаяць.

Доўга мне давялося пераконваць яго, не паверыў, пакуль сам не пакаштаваў. Бачылі б вы ягоны засмучаны твар!

**Сямён БОНДАР.**

Са склада ў Мінску (прамзона Шабаны) і Маладзечне
ВЕНТЫЛЯТАРЫ
ПРАМЫСЛОВЫЯ
ВЦ (ВР) 4-75, ВЦ14-46, ВО, ВКР, ВЦП і інш.
КАЛАРЫФЕРЫ
КЛАПАНЫ
КВУ з МЭО
ТАА «СПАРТ» Т./ф. у Маладзечне (01773) 68763, у Мінску (017) 2170337 ПЕРШЫ ПАСТАЎШЧЫК ТАВАР СЕРТЫФІКАВАНЫ

УП «Карбел»
ВОТРУБ'Е
жытняе (у мяхах)
ЦЭМЕНТ
500-Д20
Тэл. у Вілейцы 52914, 52915.
Тэл. у Мінску 2064958.
Ліц. №10611 Мінскага ГВК ад 08.06.2000 да 08.06.2005 г.

БОЛЕЕ 8000 КЛИЕНТОВ В БЕЛАРУСИ УЖЕ ВЫБРАЛИ НАШИ ШИНЫ...
А ВЫ?
ШИНТОРГ
- Работаем с векселями
- По чековой книжке
- Возможен бартер на КРС
- Новинка! МОТОРНОЕ МАСЛО, ТОСОЛ
К ПРАЗДНИКАМ - СКИДКИ
тел. в Молодечно (01773) 6-42-84
Первый поставщик. Подлежит обязательной сертификации.

ПЯЧАТКІ, ШТАМПЫ, ГРАВІРОЎКА
г. Маладзечна, вул. Буйніцкага, 63, тэл. 54402. МП «ВІЗІТ».
Ліц. №006 МУС РБ ад 20.05.1998 г. да 20.05.2003 г.

Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **8190 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. **№1 (350) 4.01.2002**. РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №. Падпісана ў друк у 13.00 3.01.2002

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 53935, 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020